Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

No 18 25- 31 жніўня 1995 года ЦАНА 500 рублёў

ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ.

✓ НАВІНЫ РЭГІЁНА. СЕНСАЦЫІ

✓ ПРАГРАМА TV НА ТЫДЗЕНЬ

✓ РЭКЛАМА

# Мацуем сувязі са "старэйшым братам" півам і "Празрыстай"

***Піва і гарэлкі маладзечанцы сталі піць менш. Ва ўсялякім разе, да такога вываду прымушаюць прыйсці лічбы. Калі за сем месяцаў летась Маладзечанскі піўзавод паставіў у гандлёвую сетку 113 тысяч дэкалітраў таго ж піва, то сёлета — толькі 110 тысяч. Што тычыцца гарэлкі (у асноўным моцную настойку "Празрыстая" разліваюць тут), то, па словах намесніка дырэктара завода па вытворчасці Вадзіма Глінскага, у апошні час яна ўвогуле ідзе толькі на Расію.***

—А што тут дзіўнага? Яе там намнога выгадней прадаваць,— тлумачыць Вадзім Фаміч.— У нас падаткі высокія. Адных акцызаў трэба заплаціць 75 працэнтаў. А ў Расіі— зусім іншая справа. Таму амаль усе прадпрыемствы, фірмы, хто пастаўляе нам на разліў моцную, хуценька вязуць яе потым туды.

"Свабй" прадукцыяй калектыве па-ранейшаму лічаць толькі піва і безалкагольныя напіткі. Будзе неўзабаве і гарэлка, калі на заводзе ўвядуць у эксплуатацыю сучасны цэх разліву, які цяпер толькі будуецца. А пакуль з вытворчасцю і рэалізацыяй піва сёння ўзніклі некаторыя цяжкасці. Справа ў тым, што на рамонт закрыты асноўны пастаўшчык соладу— Іванаўскі (Брэсцкай вобл.) саладовенны завод. Толькі з пачатку верасня пачне ён працаваць. А з рэалізацыяй праблема адна— неплацёжаздольнасць прадпрыемстваў дзяржгандлю. Па два-тры месяцы даводзіцца чакаць вытворцам папулярнага слабаалкагольнага напою грошы. Праўда, выручаюць прадпрымальнікі і прыватныя фірмы. Яны вельмі актыўна супрацоўнічаюць з калектывам піўзавода і, што вельмі важна, своечасова разлічваюцца за набытую прадукцыю.

У апошні час, як зніклі мяжа і мытныя бар'еры паміж Беларуссю і Расіяй, маладзечанскае піва (яно, дарэчы, цяпер так і завецца) часцей сталі купляць у расійскай сталіцы. Кажуць, масквічам яно прыйшлося вельмі даспадобы: і смак неблагі, і цэны памяркоўныя. Толькі на мінулым тыдні ў белакаменную больш дзвюх тысяч скрыняў было адпраўлена, што складае 2 тысячы дэкалітраў.

Па прагнозах аб'ёмы паставак піва ў Маскву павінны ўзрастаць. Гэта значыць, што работай калектыў піўзавода будзе забяспечаны. І, адпаведна, зарплатай таксама. Дарэчы, яна і цяпер адна з самых высокіх у горадзе.

***Вячаслаў ГРЫГОР'ЕЎ.***

## За мэбляй – у Валожын

***ВАЛОЖЫН. Чацвёрты месяц працуе ў райцэнтры фірменны магазін, дзе выстаўлена прадукцыя льнозавода: самых розных афарбовак і якасці абівачнага матэрыялу мяккія куткі.***

Ды і назвы, а адпаведна і мадыфікацыі іх, розныя – "Міранка", "Ветразь", "Іслач". Вытворцы ўвялі і такую забытую льготу, як продаж мэблі ў крэдыт. Першапачаткова ўносіцца 50 працэнтаў кошту, а на працягу шасці месяцаў – астатняя сума. Тавары ў крэдыт могуць набываць усе жыхары Валожыншчыны.

Дарэчы, больш дваццаці набораў мяккай мэблі выпускае заводскі мэблевы цэх. Можна нават загадзя заказаць тую абіўку, якая вам даспадобы. Не так даўно асвоілі і запусцілі ў вытворчасць крэслы-ложкі.

У магазіне вам прапануюць не толькі мэблю, але і розныя віды шпагату, які таксама выпускаюць ільнозаводчане. У поўным асартыменце прадстаўлена прадукцыя з дрэва, якую вырабляюць лягас і Івянецкі дрэваапрацоўчы камбінат. Ёсць і спецыяльна падрыхтаваныя спісы таго, што могуць прапанаваць пакупнікам. Напрыклад, вельмі зручныя вуглавыя канапы для кухняў каштуюць у два разы танней, чым у іншых крамах, таму карыстаюцца асаблівым попытам. Дрэваапрацоўчы камбінат прапануе таксама прадукцыю, што атрымлівае па бартэру.

За рэалізацыю тавараў тут бяруць толькі 5 працэнтаў, роўна на зарплату прадаўцам, таму і цэны адносна памяркоўныя.

***Наталля ШТЭЙНЕР.***

## Адны— на моры, другія— на дачы, а старшыня пассавета свой водпуск праводзіць на жніве.

***РАДАШКОВІЧЫ. Пяты год сакратар Радашковіцкага пасялковага Савета Генадзь Паўлавіч Кручонак прымяркоўвае свой водпуск да пачатку збожжавых у калгасе імя Янкі Купалы.***

Да таго, як яго выбралі ў мясцовыя органы ўлады, ён працаваў у гэтай гаспадарцы галоўным інжынерам. Магчыма, гэтым тлумачыцца яго не зусім звычайны спосаб правядзення адпачынку? Як бы там ні было, але і сёлета Генадзь Паўлавіч разам з сынам Уладзімірам выве\ў на калгасныя палеткі магутную "Ніву". Сямейны экіпаж намалаціў 280 тон збожжа і заняў другое месца па выніках жніва. За выдатную працу праўленне калгаса ўзнагародзіла былога работніка дыванам, які, кажуць, вельмі прыйшоўся даспадобы яго жонцы.

***Анжаліка КРУПЯНЬКОВА***

## Жыццё працягваецца

***МЯДЗЕЛ. У мінулую суботу, у шэсць гадзін раніцы, на плошчы Шаранговіча ў Мядзеле прагучала пажарная сірэна, якая абвясціла аб пачатку міжнароднага спартыўнага мемарыялу-рэквіема "За жыццё пасля Чарнобыля".***

Прысвячаўся ён памяці пажарнага ЧАЭС Васіля Ігнаценкі і ўсіх ахвяр той красавіцкай катастрофы 1986 года, якая накрыла сваім чорным крылом вельмі і вельмі многіх.

Першымі стартавалі сорак чатыры бегуны на звышмарафонскую дыстанцыю вакол возера Нарач. Хутчэй за ўсіх 61,1 км адолеў Іван Саковіч з Мінска. Яго вынік – 3 гадзіны 55 хвілін. Прыз пераможцу на ўрачыстай цырымоніі ўручыла маці В.Ігнаценкі Таццяна Пятроўна. З жанчын у звышмарафоне вызначылася Ніна Коваль.

На старт на трыццацікіламетровую дыстанцыю выйшла значна больш ахвотнікаў паспрабаваць свае сілы – сто адзінаццаць. Цікава, што сярод іх былі аматары бегу нават пенсіённага ўзросту. І на гэты раз першымі фінішавалі мінчане: Алена Цухо і Сяргей Казлоў.

У спаборніцтвах удзельнічалі таксама пажарныя, турысты, многім спадабалася паказальнае выступленне майстроў рукапашнага бою.

Калі ўсё атрымаецца, як задумваюць арганізатары спаборніцтваў, то і ў будучым годзе на Мядзельшчыне будзе праведзены чацвёрты па ліку мемарыял-рэквіем "За жыццё пасля Чарнобыля".

***Наш кар.***

**Наш летапіс**

З таго часу мінула шмат год, аднак старажылы і па сённяшні дзень памятаюць прыезд на Мядзельшчыну прэзідэнта Польшчы І. Масціцкага. Было гэта ў даваенныя трыццатыя гады, калі тэрыторыя Заходняй Беларусі ўваходзіла ў састаў суседняй нам дзяржавы.

# Першы прэзідэнт, які пабываў на Нарачы

На беразе сінявокай Нарачы паны-багацеі будавалі сабе ў маляўнічых мясцінах вілы. Многія прыязджалі з Варшавы на лімузінах адпачываць у Гатавічы. Гэта вёска па тым часе лічылася сярод заможных «курортнікаў» самым прэстыжным месцам.

Менавіта тут яны імкнуліся як мага болей аддаліцца ад цывілізацыі: пераапраналіся і хадзілі ў палатнянай вопратцы, спалі на простых сялянскіх ложках на льняных прасцінах. Калі адпраўляліся ў нейкае падарожжа па беразе возера альбо накіроўваліся па патрэбе ў гміну, наймалі звычайную фурманку. А харчаваліся банкіры, заводчыкі, іншая польская эліта свежымі яйкамі, малаком, мёдам, азёрнай рыбай, ягадамі ды арэхамі. Гэтымі прадуктамі іх спаўна і ахвотна забяспечвала мясцовае насельніцтва, бо паны разлічваліся адразу, ды і, папраўдзе кажучы, не вельмі скупіліся на важкія па тым часе злотыя.

У Купе ж (цяпер курортны пасёлак Нарач, у якім і вакол якога размяшчаецца большасць здраўніц) адпачывалі ў асноўным студэнты. Сустрэча прэзідэнта Польшчы з людзьмі адбылася на беразе Нарачы за Гатавічамі, у бок дома адпачынку «Сосны». Яе ход сведчыць, што да гэтай падзеі сур'ёзна рыхтаваліся і мясцовыя жыхары, і «каманда» І. Масціцкага. Народу, духавенства сабралася шмат. Як толькі эскорт чорных лімузінаў спыніўся, высокія госці павысыпалі з машын і падышлі да вады. У гэты ж момант мясцовыя рыбакі выбралі свае сеткі і накіравалі чоўны да берага. Тут яны і паднеслі прэзідэнту Польшчы вялікага шчупака. Той прыняў трапяткога азёрнага драпежніка з удзячнасцю. Праз момант нехта з суправаджаючых высокую асобу нёс шчупака да лімузіна. А Масціцкі ў гэты час у добрым настроі аддзякаваў рыбакам злотымі. Даваліся чуць, што шчупака гэтага кемлівыя рыбакі, каб не схібіць, злавілі загадзя, «загналі» яго ў сетку, дзе ён і чакаў прыезду І. Масціцкага.

Што яшчэ запомнілася людзям? З усёй ваколіцы мясцовыя жыхары папрыводзілі дзяцей, якія добра спявалі, гралі на скрыпках, цымбалах. Ім далі магчымасць выступіць, прадэманстраваць свае здольнасці. І калі, на думку прэзідэнта, падлетак валодаў талентам, ён даваў каманду, чалавек са світы падыходзіў да выканаўцы, пытаў прозвішча, уносіў яго ў ашчадную кніжку і аддаваў яе на рукі падлетку. На кніжку загадзя была залічана пэўная сума з такім разлікам, каб здольны хлопчык мог атрымаць адпаведную адукацыю.

На адной з машын усталявалі спецыяльную скрыню, у якую кожны жадаючы мусіў укінуць заяву, скаргу ці нейкае прашэнне. Некаторыя людзі падыходзілі да яе, апускалі туды лісты. Толькі вось наконт далейшага рэагавання на гэтыя прашэнні нічога не ўдалося даведацца. Мабыць, які ў наш час здараецца, большасць з іх у рэшце рэшт засталася непачутаю.

Прыязджаў на Нарач і яшчэ адзін прэзідэнт — А. Бразаўскас з Літвы, калі сустракаўся ў «Соснах» з колішнім старшынёй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. Шушкевічам. Аднак гэты візіт застаўся для людзей практычна незаўважаным.

Па ўсёй бачнасці, трэцім прэзідэнтам, які пабывае на Мядзельшчыне, будзе А. Лукашэнка. Цікава, якія ўражанні застануцца ў жыхароў пасля сустрэчы з Аляксандрам Рыгоравічам, ці доўга будуць памятаць аб ёй людзі? Вядома, калі сустрэча такая адбудзецца.

***Алесь ДЗЯГІЛЬСКІ.***



# Астралогія на камп'ютэры

Маладзечанец І. Шубцік з астралогіяй пазнаёміўся ў сталым узросце. У час адной з камандзіровак выпадкова прачытаў кнігу "Школа Глобы". Усе далейшыя веды набыў самастойна. Цяпер захапіўся гэтай навукай (так, навукай, бо выкарыстоўвае тэорыю, робіць матэматычныя вылічэнні, пастаянна бярэ ў памочнікі камп'ютэр), усё новае выпрабоўвае на сабе (у астралогіі ёсць шмат нявызначанага, шмат небяспечнага).

Так сталася , што пад пільную ўвагу Івана Васільевіча патрапіў Скарына, дакладны год нараджэння якога не ўстаноўлены. Многія даследчыкі лічаць, што сам першадрукар даў свой год нараджэння ў ініцыялах на адным з аўтапартрэтаў. Публікацыя ў "Звяздзе"з тлумачэннем некторых астралагічных сімвалаў падштурхнула да праліку дакладнай даты нараджэння Скарыны. У выніку, акрамя канкрэтнай даты, з'явіўся яшчэ і астралагічны партрэт знакамітага беларуса (з ім газета плануе пазнаёміць чытача на пачатку наступнага года).

Не хачу пераконваць у чымсьці скептыкаў, заўважу толькі, што астралогія— навука са складанымі матэматычнымі вылічэннямі, а не адвольны каментар становішча планетаў ды іншага. Складанне індывідуальнага гараскопа, па сведчанні саміх астролагаў, гэта свайго роду ўмяшальніцтва ў чужы лёс. А яшчэ яны гавораць, што людзі абавязкова павінны "прыслухоўвацца да зорак: каб ведаць, калі даць пачатак жыццю чалавека і каб нават адзенне ды бялізну мыць у пэўны дзень.

Падобныя звесткі газета плануе час ад часу змяшчаць на сваіх старонках. Аўтар гэтых нататак скептычна ставіцца да шматлікіх гараскопаў, што друкуюцца ў розных газетах. І. Шубцік параіў звярнуць увагу на перадачу "Пад купалам Сусвету" , дзе відаць пэўную сістэму работы, а не штампаванне гараскопаў, якія супярэчаць у розных выданнях адно аднаму.

Можаце напісаць у рэдакцыю аб тым, што вас цікавіць. Іван Васільевіч абавязкова адкажа, пракансультуе, параіць.

***Я. Дубінскі***

# Яны адчуваюць сябе беларусамі. І хочуць дапамагчы зрабіць гэта іншым

***Бел-чырвона-белы крыж пакуты, у сярэдзіне якога— Пагоня ў цярновым вянку— такую эмблему прапанаваў мастак Васіль Лазоўскі Аб'яднанню Беларускай патрыятычнай моладзі, якое ў лістападзе мінулага года створана ў Маладзечне. «Крыж— сімвал нашай шматпакутнай Беларусі, і мы гатовы несці яго на сваіх плячах»— так тлумачыць яе старшыня аб'яднання, учарашні навучэнец прафтэхвучылішча і станочнік мэблевай фабрыкі Сяргей ЮРКЕВІЧ.***

У сталічных інстанцыях адмовіліся рэгістраваць гэтае маладзёжнае аб'яднанне, спасылаючыся на те, што праз месяц-два яно можа распасціся. Але пакуль не спраўджваецца гэты песімістычны прагноз. Сябры АБПМ усё гучней заяўляюць аб сабе сваімі справамі. На пачатку года яны арганізавалі для грамадскасці горада некалькі сустрэч з кіраўніцтвам Беларускай Партыі свабоды, прадстаўнікамі грамадскага каардынацыйнага камітэта абароны беларускай мовы, «Маладзёжнай фракцыі БНФ». Далі невялічкі ўласны канцэрт на агульнагарадскім свяце, прысвечаным 77-м угодкам абвяшчэння БНР, а напярэдадні 25 сакавіка з'ездзілі ў мястэчка Плябань, каб ушанаваць памяць загінуўшых у 1863 годзе паўстанцаў. У гонар Дня Перамогі запрасілі ў «Беларускую хатку», якая шмат гадоў дзейнічае ў інтэрнаце радыёзавода «Спадарожнік», ветэранаў вайны, многіх павіншавалі арыгінальнымі паштоўкамі, зробленымі сваімі рукамі.

22 жніўня выйшаў трэці выпуск «Маладзёжнага кур'ера», у якім – інтэрв'ю са старшынёй Беларускай Партыі Свабоды Сержуком Высоцкім і прэм'ера песні мясцовага барда, сябра АБПМ Віталя Скадорвы.

А восенню маладыя патрыёты хочуць наладзіць у горадзе вялікае свята беларускай песні. Заручыліся падтрымкай камітэта па справах моладзі гарвыканкома, многіх выканаўцаў і гуртоў з Маладзечна. Збіраюцца звязацца і са сталічнымі калектывамі. Але грошай у іх беднавата. Магчыма, каго-небудзь зацікавіць гэта задума і справы трох дзесяткаў улюбёных у беларусчыну маладых людзей? Тады выходзьце на кантакт з імі па тэлефонах 6-52-86, 7-64-73.

***Анжаліка КРУПЯНЬКОВА***

Бяспамяцтва

# І святое месца пустым бывае

Нішто не вечна на свеце гэтым. Годы рушаць нашы святыні, тое, што дорага было сэрцам продкаў, што кранае сэрцы сённяшніх пакаленняў.

А калі час не здолеў зрабіць да канца сваёй разбуральнай работы, яе прадоўжылі дзяржава, улады рукамі маўклівых выканаўцаў. Такое здарылася з Міхайлоўшчынскай царквой, Спаса-Васкрасенскай царквой у Ашмянах. Аднак да гонару прыхаджан яны амаль што адноўлены. Пакладзена на іх аднаўленне шмат сіл, сродкаў. Гараджане, вяскоўцы, свяшчэннікі прыклалі шмат намаганняў у аднаўленні святынь зямлі сваёй.

Менавіта святынь, таму што ніколі не будаваліся касцёлы і цэрквы абы дзе, на выпадковых месцах. Як паведаміў нам ксёндз Антоній з Граўжышскага касцёла, заўсёды святыя месцы, на якіх пазней узнікалі гэтыя пабудовы, былі адзначаны пэўным знакам Божым. Традыцыйна месца гэтае лічылася цудадзейным. Якое знаменне папярэднічала з'яўленню ў Граўжышках у далёкім 16-м стагоддзі касцёла, які сягоння мае тытул Пятра і Паўла, праз стагоддзі паданняў ніякіх не засталося. Але, безумоўна, што і ён з'явіўся тут невыпадкова. Пабудова, рэшткі якой захаваліся ў вёсцы на сённяшні дзень, узведзена ў 18-м стагоддзі. А ў дваццатым, прыкрыўшыся ідэяй барацьбы з рэлігійным цемрашальствам, касцёл зачынілі і размясціўся ў ім склад для захоўвання мінеральных угнаенняў. І калі сваёй разбуральнай работы не зрабіў да канца ўсемагутны час, яго давяршылі людзі.

Пачалася "кампанія" па абароне помнікаў архітэктуры, касцёл аб'явілі помнікам. І на гэтым усё скончылася. Як разбураліся сцены да той пары, так яны працягваюць разбурацца і сёння, апаў дах.Сёння касцёл— гэта сумнае відовішча, хутчэй помнік абыякавасці людской. Доўгія гады людзі задавалі сабе пытанне: няўжо "абарона" гэтага помніка скончыцца яго поўным разбурэннем? Ускласці на свае плечы высакародны абавязак аднаўлення касцёла дзяржава не спяшалася. За гэта вырашылі ўзяцца ў Граўжышках самі прыхаджане, якіх ускалыхнуў ад духоўнай спячкі ксёндз Антоній. Вопыт аднаўлення культавых устаноў ён мае: за плячамі ўжо тры адноўленыя касцёлы. І як ён адзначыў, у іншых раёнах, напрыклад, Смаргонскім, Дзятлаўскім, пытанням аднаўлення ўдзяляецца значная ўвага не толькі з боку прыхаджан, але і з боку ўлад. Амаль што на вачах у Крэве ўзнімаецца, лічы з развалін, касцёл. Прымаюць удзел у яго аднаўленні і ўлады, і камерцыйныя структуры.

Магчыма, і ў Граўжышках справы аднаўленчыя пайшлі б у гару. Калі б не шэраг момантаў. Так, Міністэрства культуры рэспублікі не дало згоды на аднаўленне касцёла з цэглы. Аднаўляцца павінен ён толькі драўляным, якім быў пабудаваны ў 18-м стагоддзі нашымі продкамі. Але як падступіцца да сцен, перакрыццяў, якія за 200 гадоў струхнелі амаль дашчэнту?

Майстроў, што ўзяліся б за гэту работу, на месцы не знойдзеш. І грошы трэба вялікія, каб аплаціць іх паслугі. Работы спецыялістаў па дрэву, тым больш сталічных, ацэньваюцца не танна. У Міністэрства ж грошай на патрэбы касцёла ў далёкіх ад сталіцы Граўжышках, безумоўна, няма. Дык, можа, усё ж больш мудрымі і практычнымі былі продкі нашыя, калі на месцы ўзнікшага ў 16-м стагоддзі касцёла праз 200 гадоў пабудавалі новы?

Дарэчы, з Міністэрства культуры пакуль ніякага заключэння аб каштоўнасці яго як помніка ў Граўжышках не прыйшло. Ніякія спецыялісты не вывучалі, у якім стане знаходзіцца гэта пабудова зараз. Дык можа, сапраўды, было б лепшым, калі б законы аб ахове помнікаў не толькі забаранялі, але і дапамагалі людзям праявіць іх ініцыятыву па адраджэнню сваіх вытокаў разумна. Пакуль яшчэ такая ініцыятыва ёсць.

***Валянціна ДРАЗДОВА,***
***г. Ашмяны.***

Гумарэска

# Чалавек слова

***Вы чулі, як мільянерамі становяцца? Не ведаю як дзе, а ў нашым горадзе гэта зрабіць працей простага. Асабліва мне, чалавеку слова. Чаму чалавек слова? Усе ведаюць. Ягор Балей, кажуць, давяраць паперам не прывык. На слова мне вераць, прастакі.***

Пачынаў як? У суседа грошы пазычаў, інфляцыя тады шалёная была. Дык я з умовай, што яму праз месяц тую самую суму вярну, але «даплачу» шмоткамі, што ў Расіі на ягоныя «драўляненькія» куплю. Сам пару разоў у Расію, Польшчу абярнуся, капіталец суседа прырашчу, а яму, міленькаму— фігушкі. Абабралі, Васёк, кажу, дык я табе твае праз паўгодзіка вярну. Гандаль жа, тлумачу недацёпу, справа рызыкоўная— заляцеў.

Далей— лепей. Купіў ларочак. Мне прапануюць мае былыя спадарожнікі па «турыстычных» паездках тавар на рэалізацыю. Вядома, адзін аднаго ведаем, дык аб працэнтах на словах дамаўляемся. Тавар я прадаў, навар увесь сабе, і яшчэ звыш таго— вярнуў суму меншую, чым мае былыя калегі за яго ў Кітаі аддалі. Дзякуйце, кажу, што за гэтыя капейкі прадаў. Ніхто браць ваша барахло не хацеў.

Так вось зарабіў сабе не толькі на «Вольву». Вытворчасць сваю наладзіў, магазіны пабудаваў. Развярнуўся, адным словам.

А апошняя здзелка чаго вартая! Як спрытна я фірму адну «нагрэў». Прывёз у родны мой горад вагон піва, чэшскага. Ведаю, што сезон. Ведаю, што на ўра пойдзе. А паставіць скрынкі няма дзе— мае ўласныя склады працуюць на ўсю моц. Спаткаў неяк калегу-бізнесмена.

—Рыгор,— кажу,— выручай, піва няма дзе прыхаваць, падзяліся складскімі плошчамі. Заплачу за арэнду як мае быць. Тона піва за суткі— табе пяць тысяч. А калі трэба, то і півам няхай твая фірма частку платы бярэ— спёка ж на вуліцы.

Ударылі па руках. Прывёз Рыгору піва. Здаў на яго склад па накладных. Па накладных кожны дзень і забіраю на продаж. Рыгорка піва са сваімі калегамі пацягвае, не здагадваецца, што яно, чэшскае, бокам яму вылезе. Накладныя накладнымі, а пра арэнду толькі на словах дамаўляліся. Прыйшоў час плаціць, а я ў Рыгоркіну фірму замест грошай— следчага з аддзела па крадзяжах. Маўляў, не, каб маё піва захоўваць, яны колькі скрынак самі налева пусцілі. І накладныя міліцыянеру ў рукі— тыц. Рыгорка не разумее, што да чаго. А ў мяне ўсё пралічана— грошыкі за выпітае верне, піва ўсё аддасць, маральную няўстойкіу заплаціць, ды на судзе яшчэ прабачэнне ад яго пачую— садзіцца ж не захоча.

Ну, выбачайце, што час у вас адабраў, пабягу наступную здзелку праварачваць. На мой век прастакоў хопіць. Не здарма кажуць— Ягор Балей чалавек слова.

***Запісаў Якім ПЯРЭЧКА***

# Пуцёўку даў Сорас

***ВАЛОЖЫН. Ідэя стварэння летняй навукова— даследчай школы вучняў і настаунікаў належыць Белдзяжуніверсітэту і ліцэю пры БДУ.***

І вось яна здзейснілася. На працягу двух тыдняў з 10 па 23 жніўня на базе тэхнікума ў пасёлку Лужасно Віцебскай вобласці праводзіліся першыя заняткі, на якія з"ехаліся 100 прадстаўнікоў з розных рэгіёнаў рэспублікі. Перад імі выступілі вядучыя навукоўцы, праводзіліся розныя гульні з матэматычным ухілам, была таксама насычаная культурна-аздараўленчая і спартыўная праграма.

Запрашэнне ў школу атрымала выкладчыца матэматыкі сярэдняй школы N 1 Валожына Лідзія Пятроўна Уланчык. Яшчэ ў маі мінулага года Фонд Сораса ў Беларусі правёў выбарачнае анкетаванне студэнтаў 1 і 5 курсаў 13 вышэйшых навучальных устаноў рэспублікі з просьбай назваць лепшых, на іх думку, настаўнікаў матэматыкі, фізікі, хіміі і біялогіі. Такім чынам самым дэмакратычным і незалежным шляхам былі названы прозвішчы 120 настаўнікаў. Была ў гэтым спісе і валожынская настаўніца, якая сёлета пачне свой 33-ці навучальны год.

Лідзіі Пятроўне было дадзена права па свайму меркаванню выбраць для заняткаў у летняй школе двух найбольш здольных вучняў. Выбар выпаў на адзінаццацікласніка Аляксея Садоўскага і дзевяцікласніка Аляксандра Мандрыка. Дарогу да горада на Дзвіне аплаціў аддзел народнай адукацыі райвыканкома, астатнія выдаткі фінансуюцца пры падтрымцы Беларускага фонда Сораса.

Пакуль у Расіі вядуцца саркастычныя дэбаты: ці узнагародзяць Дж. Сораса ордэнам Дружбы народаў, у нас у Беларусі таксама чыняцца перашкоды яго пачынанням, амерыканскі мультымільянер планамерна і мэтанакіравана працягвае аказваць падтрымку не толькі вядучым і вядомым навукоўцам, ае і таленавітай моладзі, чаго пакуль што не ў стане зрабіць бедная дзяржава. Той жа Л. П. Уланчык далёка не лішнімі былі пералічаны сорасаўскія адна тысяча "зялёненькіх".

***Наталля ШТЭЙНЕР.***

